Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 37 (88). Вільня, Серада 27 Красавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Новы лад.

Палітычныя адносіны ў краі зьяўляюцца аднымі з найгалаўнейшых дзейнікаў усяго грамадзкага жыцьця. Няма тае галіны грамадзкага жыцьця, якая-б ня была так ці інакш зьвязана з палітычнымі ўмовамі. Гаспадарчыя і сацыяльныя адносіны ў грамадзянстве залежаць ад палітычных варункаў. Ведама, гэта ёсьць залежнасьць узаемная, бо гаспадарчыя дзейнікі імкнуцца да тварэньня найбольш спрыяючых сабе палітычных абставінаў. Але ў цяперашнім капіталістычным ладзе, апёртым на прыватнай уласнасьці, па праве найму і на індывідуальным пачыне, кожны чалавек сам дбае аб задаваленьню сваіх патрэбаў і, імкнучыся да стварэньня сабе якнайлепшага жыцьця, стараецца якнайбольш выкарыстаць істнуючы лад. Вось гэты лад бывае для адных карысны, а для іншых некарысны. Капіталістычны або буйна-прамысловы лад стварае вялікія сацыяльныя розьніцы ў грамадзянстве. Грамадзянства дзеліцца на багатых і бедных, на ўласьнікаў капіталу ў форме фабрык ці маёнткаў і на працоўныя гушчы. Дык гэты лад ёсьць карысным для невялікай па ліку клясы капіталістых, трохі менш для буржуазіі і зусім некарысным для працоўнага народу.

Ня гледзячы на тое, што працоўны народ мае вялікую лічэбную перавагу над панамі, капіталістымі, усё-ж такі ўмовы капіталістычнага ладу даюць магчымасьць багатым выкарыстоўваць працу бедных. Чаму гэта так? Затым што ўлада належыць да багатых, затым што ўладары сьцерагуць такіх гаспадарчых адносінаў, якія спрыяюць разросту капіталу, коштам эксплёатацыі працоўнага народу. Працоўны народ: работнікі, сяляне і працоўная інтэлігенцыя дагэтуль будуць выкарыстоўвацца клясай багачоў, пакуль будзе істнаваць капіталістычны лад.

Буйна прамысловы лад істнуе цяпер на ўсім сьвеце. Нават у ССРР разьвіваецца буйна прамысловы лад, з той толькі розьніцай, што замест паасобных эксплаататараў фабрыкантаў і абшарнікаў у ролі эксплаататараў выступаюць дзяржаўныя трэсты і г. зв. савхозы, якія вядуць нацыянальную гаспадарку па старых, трохі палечаных прынцыпах капіталістычнага ладу. Як у буржуазных, так і радавай дзяржаве, фактычна ўлада не належыць да працоўнага народу і затым палітычныя ўмовы ва ўсіх цяперашніх дзяржавах не зьяўляюцца творам псыхікі большасьці грамадзянства—псыхікі працоўных гушчаў. Вынікам гэтага ёсьць тое, што цяперашні лад пабудаваны на крыўдзе сялян, работнікаў і працоўнай інтэлігенцыі. Каб спыніць гэтую крыўду, трэба стварыць іншы лад, дасканальнейшы, у якім кожны атрымоўваўбы з агульна-грамадзкага даходу роўную часьць, часьць роўную ўложанай ім працы. Хто можа стварыць такі новы лад? Толькі самі пакрыўджаныя. Ні адна ўлада цяперашніх дзяржаваў ня пойдзе па шляху вызваленьня працоўных з ярма капіталістычнага ладу, бо гэтае вызваленьне будзе ніваляваць сацыяльныя рожніцы на карысьць бяднейшых клясаў. Каб самі пакрыўджаныя маглі ўзяць у свае рукі сваю долю, павінны быць да гэтага адпаведна прыгатаваны. Прыгатаваньне гэтае мусіць быць плянова арганізаваным. Перадусім працоўныя масы павінны прайсьці адпаведную асьвету і акрамя гэтага грамадзкую школу. Толькі пасьля гэтага можа надыйсьці новы дасканальны і справядлівы грамадзкі лад. Разумеюць гэта добра цяперашнія ўладары і затым стараюцца трымаць працоўныя гушчы ў цемры. Як царскі ўрад так неахвотна пускаў сыноў працоўнага народу да вышэйшай асьветы, так польскі ўрад хоча каб вышэйшая асьвета была даступна толькі для прывеліяваных клясаў. Аб Беларусах дык на'т і няма ніякае гутаркі. Беларусаў не пускаюць зусім у вышэйшыя школы, бо Беларусы — сыны працоўнага народу. Апрача перашкодаў натуры нацыянальнай выступаюць перашкоды натуры сацыяльнай. Гэтымі сацыяльнымі і нацыянальнымі матывамі тлумачыцца і тое, што польскія ўлады не даюць нам беларускай пачаткавай школы. Польская школа для нашага народу чужая, бо вучыць у панскім духу, а ня ў духу працоўнага народу, затое і вынікі такой школы весьмі мізэрныя. Гэтая школа не дае нам ніякага ўзгадаваньня; беларускія сялянскія дзеці астаюцца фактычна цёмнымі калі ня так як бацькі, дык усёроўна іхняя асьвечанасьць не зьяўляецца карыснай у грамадзкім беларускім значэньні. Гэтага ўлада толькі і хоча, бо на цемры працоўных утрымліваецца некарысны для іх грамадзкі лад.

Дык прымаючы ўсё вышэй падане пад увагу нам трэба імкнуцца да запраўднай асьветы, праз гэтую асьвету мы дойдзем да магутнасьці і новага справядлівага грамадзкага ладу, у якім праца будзе ў пашане.

## Пераход на хутары.

Ці ёсьць дзе горшае жыцьцё як у нас на Беларусі? Ад скасаваньня паншчыны ў 61 годзе, лік сялянаў на Беларусі павялічыўся ў некалькі разоў, сялянскі-ж надзел займаўся ў тэй самай меры, як і тады, на прырэзку зямлі надзеі мала, пабочных заробкаў таксама няма, спосабы-ж жыцьця і працы на зямлі засталіся тыя самыя, калі ня лічыць уведзеных плугоў замест даўнейшых сохаў, ды жалезных баронаў замест даўнейшых драўляных. Яшчэ было-бы паў-бяды, калі-б гэты малы сялянскі надзел быў-бы ў адным, суцэльным куску, а не раскіданы, раздроблены на вузкія палоскі па розных месцах. Гэтыя вузкія палоскі ў сваю чаргу дзеляцца яшчэ раз на вузейшыя, створаць гэткім чынам вядзеньне гаспадаркі ва вёсцы проста немагчымым.

Дзякуючы гэтай церазпалосіцы, сталася цяпер на весцы тое, што гаспадар на сваім полю на волен, бо ўсе залежыць ад агулу, скаціна што-лета галадаець ад настачы пашы, ураджаі зьменшыліся да таго, што часам ад пасеўку, астаецца хлеба меньш, чым пасеяна. Вось над гэтым павінен задумацца, кожны гаспадар. Калі немагчыма павялічыць сваю зямлю ў шырыню і ў даўжыню, дык трэба яе павялічыць у глыбіню, гэта ёсьць — ляпей абрабіць яе, каб яна дала большыя ўраджаі.

А зрабіць гэта можна толькі будучы поўным гаспадаром сваей зямлі, незалежным ад волі сваіх суседзеў. Найлепшым выхадам з палажэньня, будзе пераход на хутары. Праўда, што пераход на хутары ў сучасны момант для беларускага селяніна вельмі цяжкі, бо урад блізу, што нічога яму не памагае. Устава з 31 ліпня 1923 года вельмі асьцярожна кажа аб урадавай дапамозе, на дзеле-ж, калі і ёсьць, якая-колячы дапамога, то яна залежыць вылучна ад добрай волі земскіх камісараў. Як ні цяжка пераходзіць, на хутары, але там дзе ёсьць пэўныя варункі, што пераход будзе забесьпечаны ўрадавай дапамогаю, там дзе ёсьць надзея на прырэзку зямлі, там хутараў няма чаго баяцца.

Перадусім, жыцьцё на хутары дае ўласьніку гэткія выгады: меней ідзе працы і часу на яго абработку і большая карысьць, праз некалькі год жыцьця на хутары, матэр'яльнае палажэньне значна павялічваецца. Поўная свабода гаспадару, дзеля прылажэньня да гаспадаркі, усей навучнай землябоскай тэхнікі. Ня гэтак страшны розныя няшчасьці, як пажар, эпідэмія і інш.

Поўны духовы супакой чалавеку, няма места сварыцца, лаяцца з суседзямі. Шмат яшчэ, якіх выгадаў дае жыцьцё на хутары, але і гэтага даволі, каб праканацца, дзе лепей жыць.

Падаючы ўсе тыя выгады, якія могуць быць ад хутарскага гаспадараваньня і прыймаючыся паглядаў, што і ў запраўднасьні шмат выгадней і карысьней было-б калі-б нашы вёскі перашлі на хутары, мы разам з гэтым мусім зазначыць і тое, што зрабіць гэта вельмі трудна.

Перадусім трэба многа грошай на разбудову і правядзеньне розных работаў на надзел зямлі і патрэбна прырэзка зямлі.

Да гэтага-ж і тое, што калі перайсьці на хутары і астацца на кавалачку зямлі 1—2 дзесяціны, дык ясна ніякае карысьці ня будзе, бо на гэтакім хутары ніякае направы зрабіць нельга.

Далей трэба браць пад увагу тыя фактычныя праявы, якія ўжо ня раз друкаваліся на шпальтах нашае газэты. А гэта ўжо тычыцца ўрадавае палітыкі. Урад, як ведама, падтрымлівае хутарскую акцыю і на словах дае запамогі, але на факце з усіх абяцанак выходзіць нешта інае, дык пасьля ўсяго ствараюцца няпрыемнасьці і сялянства пападае ў прыкрае палажэньне, аб якім ня раз ужо пісалася з вёсак.

Дык дзеля гэтага мы засьцярагаем сялян, на абы якую камасацыю не кідацца, а прыступаць да гэтае справы паважна і разумна. Аднак-жа там дзе будзе выгадна і ня рызыкоўна, дык пераход на хутары павінен нікога ня пужаць.

К. М.

# „Духовае паветра“.

Вышла ўжо другая кніжка беларускай часопісі „Родныя Гоні“.

„Родныя Гоні“ гэта — месячнік літаратуры і культуры Заходняе Беларусі, гэтак рэкляміруе сябе часопісь. А калі гэтак, дык чытач і запраўды мусіць вымагаць ад „спадароў“ часопісі рэклямаванай ім літэратуры і... культуры. Гэта зусім справядлівае дапушчэньне, бо калі мне прапануюць золата, а пададуць волава, дык ясна, што я буду праў, калі адпаведна на гэта зарэагую. Аднак-жа з „Роднымі Гонямі“ стала зусім інакш!... Калі на першы блін „Родных Гоняў, з якога выйшаў камаш, зарэагаваў рэцэнзар „Сялянскае Нівы“, дык „спадар“ упаў у амбіцыю ды запратэставаў, што ты сякі-такі— кажа „спадар“, — цаніў тавар толькі па вонкаваму выгляду, — па вокладцы, загляні ў сярэдзіну, дык там угледзіш чыстае золата — літэратуру і чыстае „духовае паветра“—культуры.

Рэдактару „Род. Гоняў“ трэба ведаць, што літэратура ёсьць выяўленьнем думак, настрояў, перажываньняў і інш. у мастацкай форме. Мала аднаго зьместу, трэба яшчэ каб гэты зьмест быў уложаны ў прыгожую форму. (Аб гэтым на'т у № 2 „Родн. Гон.“ ёсьць зьмешчана адпаведная лекцыя). Дык вось, ня ўвесь матэр'ял у „Родных Гонях“ быў пададзены літэратурнаю моваю, што „Сял. Ніва“ і пастанавіла ў віну Рэдакцыі „Р. Г.“. Праўда, арыгінальныя творы не падпалі пад крытыку, але-ж гэта ня значыць, калі што небудзь не крытыкуем, дык трэба яго хваліць. Гэтае пахвалы мы не выказвалі, бо на спэцыяльную пахвалу яны не заслужваюць.

У „Родных Гонях“ ёсьць яшчэ і іншыя недарэчнасьці, аб якіх у папярэдняй рэцэнзіі заведама не ўспаміналі, каб не залішне крытыкаваць беларускіх журналістаў. Але калі рэдакцыя „Родн. Гон. упамінаецца так аб гэтым у № 2 „Р. Г.“, дык для прыкладу можам узяць хоць-бы агляд творчасьці Ядвігіна Ш. Антонам Навінай.

У гэтым аглядзе адразу адчуваецца адно, гэта — опрытнае ўвіваньне словамі. Але калі ўзяць вывады, дык нельга найсьці там нічога лёгічнага. Гэта наагул цалком недарэчнасьць.

Зробім выпіскі з самога зьместу, дык ляпей можна будзе разабрацца. Дык вось, малюючы Антона Лявіцкага, Ан. Навіна піша: „Ядвігін Ш. — гэта прадстаўнік перадусім нашае спольшчанае краёвае інтэлігэнцыі“... яны значна (прадстаўнікі) лятуцелі аб згодным сужыцьці вёскі з дваром, сялян—з панамі. Яны стараліся маральна падыймаць сялянства, узгадоўваючы яго ў традыцыях вернасьці і любові да сваіх апякуноў-паноў. І яны, ўрэшце, думалі, што беларускае сялянства, кажучы славамі Рыпінскага, пры некаторым стараньні і культурнай працы сярод яго, „навучыцца ня толькі гаварыць і чытаць, але й думаць папольску“ умацоўваючы гэтак „адзіны польскі народ“. Дык вось знача, прадстаўніком гэтае клясы, па словах Ан. Навіны, быў Ядвігін Ш.

Пасьля Ан. Навіна піша, што: „І польская— ці лепей: спольшчаная — шляхта ў Беларусі“, адкінуўшы барацьбу за беларускае сялянства пасьля скасаваньня прыгону 1861 і польскага паўстаньня 1863 г., „пачынае арганізаваць свае сілы з выразнай мэтай барацьбы выключна за свае клясавыя й нацыянальныя польскія інтарэсы — проці народнага руху, які ведамы пад назовам „Народніцтва“.

Але затое канец агляду гавора цалком нешта іншае: „Ядвігін Ш. наагул свайго ўласнага, арыгінальнага творыць вельмі мала: ён тольлі як быццам падслухаў беларускага селяніна, праняўся духам агоным і абразамі народнае мысьлі выяўляе народную душу“. Ядвігін Ш. па словах А. Навіны „здалеў адчуць і выявіць ў прозе дух беларускага народу і беларускае прыроды“. Дык вось у гэтым і ёсьць недарэчнасьці Ан. Навіны, бо пэўна, што народ быў проці шляхоцкіх паглядаў на справу, народ быў іншае думкі чым шляхта і калі шляхта змагалася з народніцтвам, а Ядвігін Ш. быў прадстаўніком гэтае клясы— „спольшчанае краёвае інтэлігэнцыі“, дык ня мог быць выявіцелем „духу беларускага народу“ і гаварыць гэтак, як быццам самае сялянства, варожае польскасьці і шляхоцтву.

На гэтым заканчваем свае ўвагі аб першым нумару і крыху закранем нумар другі. На першы пагляд кідаецца ў вочы тое, што вонкавы выгляд зусім зьмяніўся.

Мова ў другім нумары шмат папраўлена і калі-б ня некалькі жорсткіх мясцоў „спадаровых“ ды некалькі луцкевічаўскіх бруковых лаянак, дык мова ўсей часопісі была-б зусім літэратурнаю.

Калі ўзяць зьмест дык у ім няма нічога асаблівага, каб можна было яго адумыслова ацаніць. Усё-ж такі другая кніжка мела-б яшчэ такую сякую вартасьць, як страва для „духовага паветра“, калі-б не артыкул: „Як спаткалі „Родныя Гоні“. Гэты артыкул зьяўляецца красачкай гэнага „духовага паветра“ і затым закасоўвае ўсе іншыя ў выперадках выслаўляцца бруднымі словамі. Дзівіцца прыходзіцца, як гэта Наталія Арсенева—талантная пясьнярка пазваляе зьмяшчаць свае прыгожыя творы побач з брудным луцкевічаўскімі лаянкамі, якія дагэтуль запаўнялі толькі шпальты рожных „Спраў“, „Праўдаў“ ды іншых, а цяпер перайшлі ў месячнік „літэратуры і культуры“ як добрая страва для „духовага паветра“.

У „Родных Гонях“ тыя самыя брудныя асабістыя прытычкі як: „баіцца страціць мандат“, баіцца не дастаць яго“, „дурной і злоснай рэцэнзіі“, „арапы, мэтысты, крэолы“, „благі, злосны, няпрыстойны і нясумленны рэцэнзар“, гэтыя красачкі „прыгожага пісьменства“ усьцяж спатыкалі і спатыкаем у луцкевічаўскай палітычнай прэсэ. Цяпер прынамсі ведаем, што „спадарскасьць “ і „луцкевічаўшчына“ пароднiліся ды яшчэ праз „духовае паветра“. Але выбачайце, паночкі, што мае супольнага пасольскі мандат з рэцэнзіяй „літэратурнае часопісі“! Ці, каб ня страціць мандат, дык ня трэба падаваць у „Сял. Ніве“ „дурной і злоснай рэцэнзіі“?! Ці-ж можна дастаць пасольскі мандат толькі праз тое, што нехта ня будзе падаваць рэцэнзіі аб „літэратурным месячніку“?! Ці-ж за непрыхільную рэцэнзію можна рэцэнзара назваць „благім, злосным, няпрыстойным і нясумленным“?! Гэткія вывады можа рабіць толькі луцкевічаўская прэса.

Дык вось чым корміцца „духовае паветра“!

Рэцэнзар.

* * *

Тваю постаць бачу сяньня
І пяю тут ёй літаньне:
Палюбі,
Пакахай,
Ня губі,
Падтрымай,
Прытулі,
Пашкадуй,
Абымі,
Пацалуй...
А яна чымсь сьнег бялейша
І чым цьвёрды лёд зімнейша
Ўсё глядзіць
Недзе ў даль
І маўчыць,
Як-бы хваль;
Ціха з мора ў мора трэ
І ў бягу ўсіх бярэ.

* * *

Адказу на любоў маю
Ах,... колькі год калісь чакаў,
Аб ёй дзяцём ужо пяяў,
Аб ёй студэнтам тож пяю.

Яна хапала Музу мне,
Яна казала мілы каз.
Ах, колькі, колькі ў ночы раз
Яна была са мною ў сьне.

Яна са мной усьцяж плыла.
І лятуценьнем мне была.

ЗОРКА.

Ты адна толькі тут
На разхрыстным ўзору нябёсаў,
Ты адна толькі тут
Сочыш блыскат раскропленых росаў;
На лугох, дзе маркоціцца шэра імгла
Толькі з горы ты, зорачка, сьвеціш адна.

* * *

Зайграла музыка зьмярканьня
І ўсё туліла ціха ў сьне,
Пакрыўшы хваляй шапатаньня
На цэлу ночку аж да раньня,
Замёршы ў сівенькай імгле.

І толькі хвалды цёмнай ночы
Стаялі моўчкі пры вакне,
Прыбіты лісьцям, што шапоча
Апошні гымн свой а паўночы...
Каб утапіцца ў ночы сьне.

*Фр. Грышкевіч.*

# З жыцьця Інстытуту.

**Аб справаздачах.**

Паводле § 4 Рэгуляміну Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ўсе Гурткі павінны прыслаць у свой Аддзел або Цэнтралю справаздачу за першыя тры месяцы 1927 г.

Гурткі, якія дагэтуль ня выслалі справаздачы павінны неадкладна паслаць яе ў Аддзел, або Цэнтралю, пры гэтым Гурткі з Віленскага ваяводзтва і Лідзкага павету павінны справаздачу выслаць у Віленскі Аддзел, з Наваградзкага ваяводзтва ў Наваградзкі Аддзел і з Беластоцкага і Палескага ваяв. у Цэнтралю на адрэс: Вільня, Завальная 6—5.

**Цэнтральны ўрад і ўрады Аддзелаў Інстытуту.**

# Да ведама беларускай вучнёўскай і студэнскай моладзі.

Ёсьць магчымасьць паехаць на навукі ў Амэрыканскія сярэднія і вышэйшыя школы для хлапцоў. Моладзь наша будзе прынята на поўнае ўтрыманьне. Жадаючых скарыстаць з гэтага рэдкага дабрадзейства, просім у найхутчэйшым часе прыслаць нам:

1) просьбу аб прыйме з кароткім жыцьцярысам,

2) мэтрыку нараджэньня,

3) пасьвядчэньне аб навуцы (трэба мець скончаных найменш чатыры клясы гімназіі, або сем кляс школы пачатковай, каб быць кандыдатам у школу сярэднюю, або матуру — ў вышэйшую.

4) Пасьведчаньне доктара аб здароўі наагул.

Просім зацікаўленых зрабіць гэта ўсё безадкладна, каб можна было хутчэй пачаць стараньні аб дазволе на падарожу прад уладамі польскімі.

5) Пасьведчаньне аб маральнасьці ад сьвяшчэнніка, ксяндза, або вядомай беларускай установы.

**Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, Аддзел у Вільні, завальная 6—5**

# Махай прамахнуўся.

Быў час калі ў Баранавіцкім павеце шырока размахаўся галілеюш Махай у ролі старшыні баранавіцкага павятовага камітэту П.П.С. Спрытны Махай будучы кіраўніком сацыялістычнай акцыі на павет разам з гэтым зьяўляўся агентам дэфэнзывы, аб чым беларускі пасол Рагуля выказаўся ў Сойме на паседжаньні 21.VII.1926 г. характэрызуючы гэтым працу польскіх сацыялістых.

„Сацыяліст“ Махай вельмі ўбурыўся за гэта на пасла Рагулю і напісаў пісьмо ў рэдакцыю „Краснага Знамя“, якое і было зьмешчана ў № 16 за 1926 год. У гэтым пісьме даючы адказы пану паслу Рагулі і апраўдаючы сябе, Махай закідаў п. Рагулі і сэн. Назарэўскаму рожныя злосныя выдумы.

Сэнатар Назарэўскі скіраваў справу ў Акружны суд, які на паседжаньні 23 сакавіка г. г. разгледзіў справу і пакараў 2-мя тыднямі вастрогу.

Дык вось знача Махай прамахаўся.

# Ліст у Рэдакцыю.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Будзьце ласкавы зьмясьціць у Вашай газэце наступнае:

У нядзелю 3 красавіка с. г. а 8 гадзіне раніцы быў арыштаваны вучань Радашкаўскай Беларускай гімназіі Ўладзімер Мазоль і адпраўлены ў Маладэчна, гдзе яго зачалі „бадаць“ у новым будынку Староства. Каля 7—8 асоб убраных па цывільнаму, разам з асьпірантам паліцыі, змушалі Мазаля прызнацца, быццам ён належыць да камсамолу і ў іншых рэчах. Бадалі Мазаля наступным спосабам: прывязалі рукі да бёдраў, прысутныя па чарзе білі яго кулакамі па твары і целе, бралі за валасы і стукалі галавой аб сьцяну, укладалі пальцы ў ноздры, расьцягвалі іх і пагражалі, што паламаюць робры. Праз гадзіны дзьве. катаваньне было паўторана.

Адпраўлены ў Ліду Мазоль быў дапрошаны сьледчым судзьдзёй, які яго звольніў, бо, відаць, нават катаваньне не магло даць ніякіх дадзеных да яго абвінавачаньня.

Праз увесь час, ад нядзельнай раніцы і да палудня серады, Мазалю выдалі толькі аднаго селядца і адно кілё хлеба, чаму Мазоль змушаны быў галадаваць ня маючы пры сабе ані гроша.

*Ф. Стэцкевіч.*

Дырэктар гімназіі.

м. Радашкавічы, 17.IV.1927 г.

